# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1269) ГОД XXV БЕЛАСТОК 22 ЧЭРВЕНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.




*Прэзідыум IX з'езда БГКТ. Вядзе з'езд Янка Зенюк.*

## IX З'ЕЗД БГКТ

З першых хвілін работы чарговага IX Краёвага з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства, што праходзіў **1 чэрвеня г.г.** у Беластоку, запанаваў настрой працавітасці і засяроджанасці. Яго запачаткаваў дагэтуляшні старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** які адкрыў з'езд, прывітаў прыбыўшых на яго дэлегатаў і гасцей. На з'езд, між іншым, прыбылі старшыня ВК ФАН **С. Кудла,** сакратар ВК ПАРП **Ю. Пяхоўскі,** прадстаўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП **К. Мамак,** беластоцкі віцэваявода **З. Світай,** прадстаўнік грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў **С. Дэмянюк,** кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП **З. Рыбіцкі,** кіраўнік аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення **У. Канстанчук,** іншыя прадстаўнікі. Усіх іх дэлегаты з'езда прывіталі гарачымі апладысментамі.

На прапанову М. Самоціка дэлегаты паклікаюць прэзідыум з'езда з вядучых дзеячоў і актывістаў нашай арганізацыі, а старшынёю з'езда — **Я. Зенюка**. Першымі на трыбуну падымаюцца прадстаўнікі моладзі Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў, Бельскай пачатковай школы № 3. Пранікнутыя сардэчнасцю віншаванні ў адрас з'езда. Каб ён быў творчы і плённы. Гэтыя два аспекты для нас найважнейшыя ва ўсёй дзейнасці арганізацыі. Яно знайшло пацвярджэнне і ў факце прызнання групе дзеячоў БГКТ узнагарод. Сакратар ВК ПАРП **Ю. Пяхоўскі** Сярэбраны Крыж Заслугі ўручыў **М. Хлябічу,** залатыя знакі „Заслужаны для Беласточчыны" **М. Вішанку, В. Рудчыку** і **Я. Тапалянскай,** сярэбраныя — **Р. Місеюку** і **Я. Целушэцкаму.**

З'езд паклікае камісіі: мандатную, выбарчую і пастановаў. Гэтыя ўнутраныя органы з'езда забяспечваюць праўны яго ход і згоднасць са Статутам БГКТ.

Са справаздачным дакладам выступае М. Самоцік. Даклад быў дапаўненнем да раней высланых дэлегатам абшырных матэрыялаў аб дзейнасці БГКТ у гадах 1976-1980.

— Мінулыя чатыры гады былі плённымі ў дзейнасці таварыства, — падкрэслівае дакладчык. — Усе мерапрыемствы былі сумленнай працай для дабра ўсяго грамадства і патрэб нашай арганізацыі.

М. Самоцік прыпамінае асноўныя напрамкі дзейнасці БГКТ і важнейшыя дасягненні за справаздачны перыяд. Значнае месца ў ёй займала ідэйна-выхаваўчая праца. Яна была накіравана на развіццё патрыятычных пачуццяў, паглыбленне дружбы з Савецкім Саюзам і іншымі народамі сацыялістычнай садружнасці, умацаванне грамадскай дысцыпліны і беражлівасці да супольнай маёмасці, добразычлівых адносін паміж людзьмі. Таварыства асноўную

(Працяг на стар. 2)



*Старшыня ГП М. Самоцік выступае з дакладам.*



*Дэлегаты і госці IX з'езда БГКТ.*

БУГ У АГНІ

Я то крык аб дапамогу, з кожнай хвілінай усё цішэйшы і болей безнадзейны, пачулі толькі тады, калі спыніліся выбухі ад снарадаў, якімі гітлераўцы гэтага дня амаль безупынку абкладалі іх дот.

Каторы гэта ўжо дзень? Здаецца, што вечнасць. Толькі пасля многіх гадоў можна спакойна аб гэтым падумаць. З яго рахунку выходзіць, што найцяжэйшы, найбольш страшны быў сёмы дзень гэтай лютай вайны, якая толькі што пачыналася.

*„Толькі пасля абстрэлу,* — успамінае Іван Шыбакоў, — *таварышы выцягнулі мяне з гэтага калодзежа і занеслі ў агрэгатны адсек, дзе знаходзіліся таксама іншыя цяжэй параненыя байцы і афіцэры..."*

Было цёмна. Як у дамавіне. І сапраўды, знаходзіўся ён ужо на няўлоўнай мяжы жыцця і смерці. А можа толькі ляжаў без памяці... Раптам раздаўся страшэнны выбух. Аж затрасло тоўстымі жалезабетоннымі сценамі дота. Дзверы выскачылі з завесаў. У прабоінах зашыпеў агонь. Рваліся снарады, гарэў порах. Значыць, агонь знішчыў рэшткі баявых прыпасаў... Хтосьці енчыў, хтосьці крычаў, а пякучыя языкі агню паўзлі ўсё бліжэй і бліжэй... Страшэнны боль асляпіў яго.

*„Хто і калі вывалак мяне з гарэўшага дота, я не памятаю. Апрытомнеў ужо звонку, побач дота, лежачы на зямлі. Балела галава. Паспрабаваў павярнуцца, каб што-колеч пабачыць. Найперш адчуў нясцерпны боль у грудзях і ў левай руцэ. Пераадолеў гэты боль і зразумеў, што я сярод параненых, што над намі стаяць немцы. Пазнаў сваіх байцоў: Пісарава і Вераб'ёва. Адзін з палонных капаў яму. „Гэта хіба для нас",* — *шапталі параненыя. І я ў гэта таксама паверыў..."*




Так Іван Шыбакоў апісаў заканчэнне сваіх баявых дзеянняў у дотах над Бугам на старонках зборніка *„Буг в огне"*, а ў пісьме да мяне яшчэ ён дабаўляе:

*„...Цяжка параненых, якія не змаглі ўжо самастойна рухацца, як Курачкін, якому абарвала бараду і сківіцу, а язык вісеў на кусочку скуры, як Пісараў, якому асколак разарваў жывот і мачавы пузыр, такіх фашысты проста дабівалі на месцы."*

І малодшы лейтэнант Шыбакоў падрыхтаваўся таксама ўжо на смерць. Падумаў пра жонку, пра сына Юрку і пра двухгадовую дачушку Валечку. Дзе яны? Што з імі? Як будуць жыць без яго, без бацькі?

Немцы падагналі грузавыя аўтамабілі.

*„З дапамогай сяброў,* — піша Іван Шыбакоў, — *мяне пагрузілі на аўтамабіль і разам з іншымі запалоненымі байцамі адставілі на станцыю Сямяцічы ды кінулі ў нейкі хлеў...".*

Без яды і вады, без якой-колеч медыцынскай дапамогі.

*„На другі дзень нас перавезлі за Буг у палявы нямецкі шпіталь і тут урэшце параненым зрабілі перавязку. А мне нават сшылі нос, разарваны асколкам, выцягнулі некалькі асколкаў з грудзей і левай рукі. Затым адправілі нас у лагер за горадам Бяла Падляшская."*

Гэты горад (цяпер ваяводскі цэнтр) запісаўся трагічнымі ўспамінамі ў лёсе многіх тысяч савецкіх грамадзян, даўнейшых ваеннапалонных. На працягу чатырох гадоў вайны гітлераўцы ўтрымоўвалі тут сапраўдны лагер смерці. Быў гэта — паводле нямецкай тэрміналогіі — **шталяг 366/Z,** які з'яўляўся адным з філіялаў цэнтральнага ў гэтай акрузе лагера для ваеннапалонных у Седльцах, вядомага з дакументаў пад назвай **„шталяг-366".**

У энцыклапедычным даведніку *„Гітлераўскія лагеры на польскай зямлі"*, апрацаваным у Галоўнай камісіі па даследаваннях гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы, на старонцы 97 чытаем, што першапачаткова гітлераўцы трымалі тут выключна савецкіх ваеннапалонных. Ноччу з 11 на 12 жніўня 1941 года 121 палонных наладзілі смелы пабег. 37 з іх гітлераўцы злавілі, 23 забілі і 32 паранілі. З простага падліку гэтых лічбаў вынікае, аднак, што 29 смельчакам усё ж пашчаслівілася вырвацца з рук катаў.

(Працяг на стар. 6)

 

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ДОЎГІ ВЕК МАШЫН

Прадоўжыць рэсурсы аўтамабіляў, трактароў і іншых машын — задача першага ў рэспубліцы навукова-тэхнічнага цэнтра па ўмацоўваючай тэхналогіі, які створан пры Акадэміі навук БССР. Беларускія вучоныя перадалі ўжо заводам высокаэфектыўныя лазерныя і плазменныя метады загартоўкі дэталей, дасканалыя прыёмы парашковай металургіі. Новы цэнтр дапаможа ўкараніць працэсы і спецыяльнае абсталяванне для ўмацавання дэталей машын у розных галінах прамысловасці.

### ЛІДСКІЯ ЭМАЛІ

Патрэбнасці многіх аднатыпных прадпрыемстваў Расійскай Федэрацыі, Латвіі ў сыравіне для вырабу эмалей цяпер будзе забяспечваць Лідскі лакафарбавы завод. Новая магутная ўстаноўка разлічана на штогадовы выпуск 25 тысяч тон такіх рэчываў. Тэхналогіяй прадугледжана амаль поўная ўтылізацыя адходаў, што дазволіць значна знізіць сабекошт прадукцыі і павялічыць яе вытворчасць.

### НЕ ЧУВАЦЬ ШУМУ ГАРАДСКОГА

Змяншэнне шуму на вуліцах, у жылых кварталах, на прамысловых прадпрыемствах — адна з асноўных задач комплекснага плана аховы навакольнага асяроддзя, які распрацаваны і ажыццяўляецца ў Мінску.

Пры ўдзеле вучоных, праекціроўшчыкаў, урачоў-гігіеністаў складзена шумавая карта горада. Усе яе асноўныя паказчыкі ўлічаны ў новым генеральным плане развіцця Мінска да 2000 года. У прыватнасці, на магістралях і ў кварталах прадугледжана будаўніцтва шумаахоўных жылых дамоў. У іх канструкцыях будуць выкарыстаны эфектыўныя гукаізалюючыя матэрыялы, у тым ліку і спецыяльныя пліты „акмігран", масавая вытворчасць якіх наладжваецца на прадпрыемствах рэспублікі.

### *КАЛЯНДАР*

**580 гадоў назад**

24.6.1400 нар. І. Гутэнберг, нямецкі вынаходнік, стваральнік еўрапейскага спосабу друкарства рухомымі металічнымі літарамі.

**80 гадоў назад**

24.6.1900 нар. К. Чорны (М. Раманоўскі), беларускі савецкі пісьменнік.

28.6.1900 нар. Л. Кручкоўскі, польскі пісьменнік.

**75 гадоў назад**

25.6.1905 нар. П. Броўка, беларускі савецкі паэт.

**55 гадоў назад**

24.6.1925 быў заснаваны пасольскі клуб Беларускай сялянска-рабочай грамады.

**35 гадоў назад**

26.6.1945 быў падпісан у Сан-Францыска Статут ААН.

28.6.1945 створаны Часовы ўрад нацыянальнага адзінства.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 104 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch". Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23, 00-950 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 990. Nakład 7.700 I-2



# IX З'ЕЗД БГКТ



*Сакратар ВК ПАРП Ю. Пяхоўскі ўручае групе дзеячоў БГКТ узнагароды.*

**(Працяг са стар. 1)**

ўвагу адводзіла папулярызацыі роднай беларускай мовы і культуры, разбуджэнню ў беларускай меншасці ў Польшчы зацікаўлення да свайго мінулага, прагрэсіўных нацыянальных традыцый, заахвочвала да стварэння новых культурных каштоўнасцей. Ажыццяўляла гэта наша арганізацыя рознымі формамі дзейнасці: мнагалюднымі народнымі фэстынамі, песеннымі, тэатральнымі, чытальніцкімі і музычным конкурсамі, аўтарскімі сустрэчамі нашых літаратараў і журналістаў, канцэртамі, арганізаваннем выставак, урачыстых вечарын, дакладаў, нарадаў, экскурсій, вечароў адпачынку, публікацыямі на старонках „Нівы", „Беларускага календара" і іншымі мерапрыемствамі. У гэтай дзейнасці БГКТ атрымоўвала падтрымку і дапамогу ад шэрагу дзяржаўных і грамадскіх устаноў і арганізацый. У сваёй працы наша арганізацыя мусіла пераадольваць значныя цяжкасці, і было ў ёй нямала недахопаў. Нягледзячы на намаганні расшырыць нашу арганізацыю, лік членаў БГКТ у параўнанні з папярэднім з'ездам павялічыўся з 6125 усяго толькі да 6.298 чалавек, а колькасць гурткоў нават зменшылася з 186 да 178. Шэраг нашых гурткоў вядзе актыўную культурна-асветную дзейнасць, але многія гурткі не праяўляюць ніякай уласнай ініцыятывы. Патрэбна большая і кваліфікаваная дапамога гурткам і з боку інструктараў па розных формах аматарскага мастацкага руху і грамадскага актыву. Замала мы праводзім розных культурна-асветных мерапрыемстваў. Трэба, каб у ГП БГКТ працавалі высокакваліфікаваныя спецыялісты па розных відах мастацтва. Мы дагэтуль недастаткова працавалі над выяўленнем помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры і надта слаба апекаваліся ёю. Не паклапаціліся пра выяўленне нашых народных умельцаў і папулярызацыю іх творчасці. Дагэтуль не патрапілі арганізаваць салідную сістэму збірання і захоўвання беларускай вуснай народнай творчасці.

— Але ўсё ж зрабілі мы не мала і з гонарам можам гаварыць пра добрыя вынікі нашай працы, бачым мы таксама яе недахопы і будзем іх выпраўляць, — заўважыў М. Самоцік і далей прадставіў найважнейшыя заданні, над ажыццяўленнем якіх павінна працаваць наша арганізацыя ў будучыя чатыры гады. Сярод іх: ажыццяўляць членамі БГКТ заданні, якія паставіла перад усёй краінай праграма VIII з'езда ПАРП; пашыраць дзейнасць, якая мае пазнавальна-выхаваўчую ролю, павялічваць лік членаў і гурткоў БГКТ, умацоўваць усю нашу арганізацыю; дапамагаць школам у забеспячэнні навучання беларускай мове; болей праводзіць мерапрыемстваў для дзяцей; гуртаваць ва ўсіх формах нашай дзейнасці як мага болей моладзі; паляпшаць арганізацыйна і павышаць мастацкі ўзровень усіх культурна-асветных мерапрыемстваў; шырока выкарыстоўваць у культурнай дзейнасці беларускі фальклор, збіраць, захоўваць, публікаваць і вывучаць яго; садзейнічаць далейшаму развіццю беларускага літаратурнага руху і інш..

Прадстаўленая з'езду справаздача Галоўнай рэвізійнай камісіі яе старшынёю **М. Хмялеўскім** дала ўдумлівы аналіз дасягненняў і недахопаў у дзейнасці ўступаючага Галоўнага праўлення і Прэзідыума БГКТ і паказала на шэраг істотных праблемаў, якімі павінна заняцца наша арганізацыя ў бліжэйшыя гады. Камісія запрапанавала з'езду адобрыць дзейнасць уступаючага Галоўнага праўлення. Дэлегаты аднагалосна прынялі гэтую прапанову.

Старшыня мандатнай камісіі **А. Карпюк** у сваёй справаздачы паведаміў, што на 112 выбраных дэлегатаў прымае ўдзел у з'ездзе 80 чалавек, і згодна са Статутам БГКТ IX з'езд з'яўляецца правамоцным. Варта дадаць, што апрача дэлегатаў у з'ездзе ўдзельнічала больш за 50 запрошаных гасцей.

У прывітальным слове з'езду ад імя

**(Працяг на стар. 4)**



*Старшыня ВК ФАН С. Кудла ля выстаўкі выданняў БГКТ.*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

**Пастанова IX з'езда БГКТ ● Спяваюць школьнікі ● Дарога праз жыццё ● З парад „Арцыпастуха" ● Як Якім пану служыў ● Гісторыя белавежскіх ваўкоў ● Толькі грыва відаць ● Вандалы ● Чалавек не з жалеза ● Весткі з Бельска, Крывяціч, Белавежы, Нарвы, Відава, Гайнаўкі, Дубіч Царкоўных, Новаберазова ● Калі сніцца вяселле ● Кастусь засмучаны ● Песня „Рязанские мадонны".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 22 VI** — 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rol. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Teleranka „Złota kaczka" — pol. film fab. 9.50 Sport i piosenka — pr. rozr. 10.20 Antena. 10.45 Świat, który nie może zaginąć. 11.40 Dziennik. 11.55 Rol. rozm. 12.25 Teodor Parnicki — film dok. 13.20 Klub sześciu kontynentów. 14.10 Dla młodych widzów. 14.45 — 10 pytań o CSRS — rozstrzygnięcie konk. 15.00 Los. dużego lot. 15.15 Koncert życzeń. 15.55 Tele-echo. 16.55 Opera. D. Verdi „Falstaff". 17.35 Chłopak i dziewczyna — fr. film fab. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Finał mistrzostw Europy w piłce nożnej. 22.25 W domu najlepiej, czyli Brusikiewicz schow — pr. roz.

**Poniedziałek 23 VI** — 9.00 Teleferie TDC. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.15 Niespokojna miłość — odc. IV pt. „Maria" — film fab. TV CSRS. 18.35 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Narodziny miasta. 21.50 Świat i Polska. 22.35 Dziennik. 22.50 Lektury.

**Wtorek 24 VI**— 9.00 Kino Teleferii — Podróż za jeden uśmiech — odc. V i VI — filmu fab. TP. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Klinika zdrowego człowieka. 17.20 Małe Kino — filmy anim. 17.40 Sonda. 18.05 Królik Bugs przedstawia — ameryk. film anim. 18.30 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Filmoteka arcydzieł — Sokół maltański — ameryk. film fab. 22.00 XYZ — cz. I. 22.30 Dziennik. 22.45 XYZ — cz. II. 23.15 Wieczór profesorów.

**Środa 25 VI** — 9.00 Teleferie najmłodszych. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Los. Ekspress i Małego Lot. 17.05 Dom i my. 17.20 Skarbiec. 17.45 Transkrypcje pieśni Chopina. 18.00 Mam pomysł. 18.30 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu. 20.10 Konkrety. 21.40 Fest. Pios. Pol.w Opolu — benefis Z. Laskowika. 22.30 Poglądy. 22.45 Dziennik.

**Czwartek 26 VI** — 9.00 Teleferie — Nieobozowe lato oraz „Wojna planet. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.30 Filmy reklamowe. 17.35 Opowieść żołnierska. 17.55 Poligon. 18.20 Lekarz i dzi. 18.30 Turystyka i wypoczynek. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Komisarz Moulin — odc. pt. „Odpływ" — film fab. TV fr. 21.45 Pegaz. 22.30 Dziennik. 22.45 Antykwariat.

**Piątek 27 VI** — 9.00 Teleferie, w tym „Wakacyjne kino najmłodszych" i „Cudaczek". 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Ped. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Melodie. 17.25 Studio Młodych. 17.45 Czterdziestolatek — odc. XX pt. „W obronie własnej czyli polowanie" — film. TP. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Świat, który nie może zaginąć. 21.10 Ex libris. 21.30 Małe kino. 22.05 Dziennik. 22.20 Proscenium.

**Sobota 28 VI** — 15.05 Pr. dnia. 15.10 Magazyn lotniczy. 15.35 Studio Młodych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Studio — 8. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Pogoda dla bogaczy — odc. XIII. 21.10 Studio 8 c.d. (js)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 20 VI** — 8.05 Film ser. 18.55 Film ser. 20.35 Koncert. 21.55 Koszykówka. ZSRR — Włochy.

**Sobota 21 VI** — 8.05 Film ser. 11.55 Koncert. 14.55 Nie do wiary. 15.55 Filmy anim. 18.10 Spektakl. 21.30 Puchar ZSRR w gimnastyce art.

**Niedziela 22 VI** — 13.00 Film fab. 14.45 Koncert. 16.30 Filmy anim. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Koncert życzeń. 19.00 Klub podróży. 20.35 Koncert. 21.40 Puchar ZSRR w gimnastyce art.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Dora nadaje — węg. 24—25. Imperium namiętności — jap. 26—27. Uśmiech — USA 28—29.

**Bielsk Podl.** Wyspa skazańców — meksyk. 23—25. Tajemnica stalowego miasta — czes. 26—27. Barocco — fr. 28—29.

**Czeremcha** Odrażający, brudni, źli — wł. 24—25. Pięć wieczorów — radz. 28—29.

**Czyże** Wierna żona — fr. Wrześniowa eskapada — rum. 25—29.

**Gródek** Prawdziwe życie Drakuli — rum. 28—29.

**Hajnówka** Król cyganów — USA 23—24. Fedora — RFN 27. Porwanie Sawoi — pol. 28—29.

**Michałowo** Skarb na wyspie — rum. 24—25. Romans jakich wiele — wł. 26—27. Milioner — pol. 28—29.

**Mielnik** Szantaż — ang. 25. Szczęki — USA 28—29.

**Milejczyce** Zdjęcie na pamiątkę — buł. Czyje to prawo — węg. 25—29.

**Narew** Ostatni z Floksnerów — norw. Colargol i cudowna walizka — pol. 25—29.

**Narewka** Okupacja w 26 obrazach — jug. Przygody Picassa — szwedz. 25—29.

**Nurzec** Nie ma mocnych — pol. 24—25. Miłość Adeli H. — fr. 26—27. Wściekły — pol. 28—29.

**Orla** Zerwane cumy — pol. Edukacja specjalna — jug. 25—29.

**Rajsk** Aria dla atlety — pol. Gang Olsena na szlaku — duń. 25—29.

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Беларуская ЛІТАРАТУРА — Алякандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА IV

Прабыванне ў Пецярбурзе знайшло ў аўтабіяграфічных матэрыялах Купалы станоўчую ацэнку. Атмасфера вялікага горада, культурнае жыццё, розныя літаратурныя плыні і арыентацыі — усё гэта не магло не ўплываць на маладога Купалу, які паехаў у гэты горад вучыцца.

У 1913 годзе Купала пакінуў Пецярбург і пераехаў у Вільню. Тут пачаў працаваць у рэдакцыі „Нашай нівы". Праз год Купала стаў „афіцыяльным і фактычным" рэдактарам часопіса, які быў галоўным цэнтрам і органам тагачаснай беларускай ідэі адраджэння. Варта падкрэсліць, што Купала як рэдактар „Нашай нівы" прычыніўся да ўзмацнення і крышталізацыі нацыянальнага аблічча тыднёвіка. Характар „Нашай нівы" з 1914-1915 гадоў, тады, калі кіраваў ёю Купала, запярэчвае крытыкам, якія стараліся супрацьставіць беларускіх пісьменнікаў, у тым Купалу, „нацыяналістычным" кіраўнікам „Нашай нівы". Справа ў тым, што Купала належаў да групы найвыдатнейшых кіраўнікоў газеты і ў ніякім выпадку не можам супрацьставіць яго ідэалогіі гэтага перыёдыка.

У палове 1915 года, калі ў выніку наблежэння да Вільні руска-нямецкага фронту „Наша ніва" была канчаткова закрыта, Купала паехаў у Маскву, дзе паступіў у народны універсітэт Шаняўскага.

У Маскве 23 студзеня 1916 года Купала ажаніўся з Уладзіславай Станкевіч. У гэтым жа годзе сужонства Луцэвічаў пераехала ў Мінск. Часы былі вельмі цяжкія. Трывала вайна, яе бязлітаснае полымя пустошыла Беларусь. Утрыманне ў такой сітуацыі не было простай справай. Прыходзілася займацца тым, што абяспечвала элементарнае існаванне.

Купала паступіў старшым рабочым у „Дорожно-строительны отряд". Была гэта паўвайсковая фармацыя, якая займалася будовай мастоў і дарог.

Летам 1916 года фармацыя Купалы была накіравана ў Полацк, а пазней у Віцебск. Дысцыпліна і праца ў атрадзе былі не лёгкімі. І таму гэты перыяд у жыцці паэта трэба залічыць да найбольш скамплікаваных. Частыя пераезды з месца на месца, кепскія кватэрныя ўмовы, аправізацыйныя цяжкасці — усё гэта ўскладняла жыццё Купалы.

У другой палове 1917 года Купала апынуўся ў Смаленску. Тут яго застала Кастрычніцкая рэвалюцыя. Такім чынам закончыўся акрэслены перыяд у жыцці пісьменніка і яго краіны.

Ужо на падставе прыведзеных фактаў бачым, што, мабыць, у беларускай літаратуры не многа было пісьменнікаў, якіх лёс так кідаў бы з месца на месца, як гэта бачым у жыцці Купалы. Дзесяткі розных мясцін у Беларусі, Літве, Расіі — гэта тыя прыстанішчы, у якіх пасяляўся і якія пакідаў Купала.

# БЕЛЬСКАЯ АСВЕТА

Бельск моцна вырас. Стаўся другім па велічыні асветна-выхаваўчым цэнтрам у Беластоцкім ваяводстве. Тут працуе 21 школа (4 пачатковыя школы, 6 прафесіянальных, 2 агульнаадукацыйныя ліцэі, 7 ліцэяў і тэхнікумаў прафесіянальных і пасляліцэальныя прафесіянальныя студыі). Асветна-выхаваўчую дзейнасць вядуць школьная бурса (500 месцаў), музычная школа і 5 прадшколляў, філіял Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі.

У гэтым годзе ва ўсіх школах горада вучылася 5956 вучняў, з гэтага 2395 у пачатковых, 883 — у ліцэях і 2678 — у прафесіянальных. Каля 500 працаўнікоў бельскіх прадпрыемстваў і жыхароў вёсак вучылася ў звышпадставовых школах для працуючых. У прадшколлях было 767 дзяцей.

Улады горада і раёна заўсёды клапаціліся, каб моладзь, якая вучыцца ў бельскіх школах, асабліва ў прафесіянальных, здабывала адукацыю, патрэбную для гэтага раёна. Дзеля гэтага былі ўведзены некаторыя змены ў сістэме навучання. І так: 1 верасня 1978 г. пачалі больш моладзі прымаць у будаўляныя школы. Перасталі прымаць моладзь у тэхнікум сельскагаспадарчай рахунковасці: спецыялістаў у гэтай галіне было даволі.

У 1978/79 г.г. у групе сельскагаспадарчых школ былі ўведзены новыя напрамкі навучання: школа механізацыі сельскай гаспадаркі, сельскагаспадарчы тэхнікум і звышліцэальная студыя, спецыяльнасць — вырошчванне раслін і гадоўля жывёлы.

Ад 1 верасня 1979 г. у групе прафесіянальных школ былі арганізаваны новыя спецыяльнасці для патрэб прадпрыемства „Унітра" і тэкстыльнага прадпрыемства „Каро". У той час пачала працу звышліцэальная студыя агульнай электрамеханікі.

Ідзе падрыхтоўка, каб ад 1 верасня 1980 г. у групе будаўляных школ адкрыць новыя напрамкі навучання, звязаныя з будаўніцтвам. Разважаецца таксама магчымасць, каб павялічыць набор вучняў у школы, якія б вучылі спецыялістаў для патрэб прадпрыемства электралітычных кандэнсатараў.

Цяперашняя колькасць і арганізацыйны стан бельскага школьніцтва адпавядае патрэбам горада і раёна. 98% выпускнікоў пачатковых школ вучыцца далей у рознага тыпу школах, якія выпускаюць кадры для будаўніцтва, сельскай гаспадаркі, прамысловасці, гандлю і паслуг, службы здароўя і сацыяльнай апекі.

**Сцяпан Трафімюк**




**На IX з'ездзе БГКТ.** *„Беларускі магазін" беластоцкага радыёвяшчання (Віктар Рудчык), як заўсёды, праяўляе аператыўнасць. Ёсць добрая нагода запісаць вядомага паэта — „белавежца" Віктара Шведа.*

*Фота З. Лянкевіча.*

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

# „ПАДАРОЖЖА НА КРЭСЫ"

Пад такім загалоўкам паявіўся нядаўна зборнік рэпартажаў Анны Строньскай. Гэта вынік яе паездак па Варміі, Мазурах, Падляшшы. Прыгожая простая мова, якую аўтар збліжае да мовы сваіх герояў, вобразы прыроды, мясцовыя звычаі. На вобразе паасобных людзей раскрывае яна цэлыя карціны быту данага асяроддзя, яго праблемы, сацыяльна-бытавыя ўмовы, культуру. Кожны рэпартаж — гэта свайго роду кадр з жыцця. Але толькі кадр, толькі адбіццё. Аўтар у яго не ўмешваецца. Не прабуе вучыць жыцця, не прабуе кіраваць ім. Апрача дробных каментарыяў, аўтар не робіць ніякіх вывадаў.

Вялікая частка змешчаных у зборніку рэпартажаў прысвечаная Беласточчыне, а асабліва Белавежы з яе пушчанскімі краявідамі. Падарожнічае аўтар па паасобных пушчанскіх вёсках, заглядае ў сялянскія хаты, услухоўваецца ў расказы аб розных здарэннях, пазнае фальклор і абраднасць. Даволі многа месца адводзіць самому ваяводству, а асабліва яго гаспадарчым зменам, якія леглі ў аснову выхаду з-пад эпітэту „Польшча Б", якім свайго часу прыкрылі Беласточчыну. Шырока прадстаўляе яна сам горад Беласток, які называе вясковым горадам. Удакументоўваючы такую назву прадстаўляе яго насельніцтва, узнімае справу міграцыі з вёскі ў горад.

Чытаючы гэтыя рэпартажы, родзіцца аднак адно пытанне — ці часам аўтар не глядзеў, асабліва на вёску, толькі праз прызму паасобных адзінак, праз прызму разваленай хаты ці саламянай страхі? Відаць гэта, калі прадстаўляе яна яе сацыяльны бок. Часта адсутнічае недахоп аднясення да новага. І чытач можа вынесці ўражанне, што вёска на Беласточчыне затрымалася ў мёртвым пункце, не развіваецца гаспадарча. Але прагаліна гэтая гіне, калі аўтар паказвае ваяводства ў цэласці.

Anna Strońska, Podróż na kresy, Pojezierze, Olsztyn — Białystok 1979.

**М. Шаховіч**

З маёй званіцы

# Ну і прыгода!

— Чаго вы, кабеткі, такія вясёлыя? — запытаўся я ў рагатаўшых жанчын. — А вось чаму. Паслухай, — пачала вясёлая Нюрка расказ.

Было гэта ў таргова дзень. Паўнюткі цягнік, ледзь валачэцца. Вязе ён людзей з працы, з рынку. У адным вагоне такі натоўп, што носа не ўсадзіш. Полкі заваленыя пакункамі. Найбольш вязуць вясковыя жанчыны. Паслухай толькі. То вайна будзе, то света канец. Каб ведаў — і сам што-небудзь купіў бы. Адна жанчына купіла мукі з 10 кілаграмаў. Палажыла на полку, сама села насупраць і час ад часу кідае вокам на тую муку.

Трэба ж было, каб пад той мукой сеў прыгожа апрануты мужчына. Пэўна гарадскі. Усё на ім парадачкам ляжыць. Фарсун.

Аж тут цягнік раптоўна затармазіў. Адны на другіх людзі пападалі. Мука звалілася на элеганціка, разбілася на плячах і рассыпалася па нагавіцах. І праклінаў жа ён усіх і ўсё. Каб не іншыя, цётку растрос бы. Супакоілі яго. А самі давай чысціць касцюмчык чалавеку. Толькі як яго ачысціш? Смялейшыя пачалі хіхікаць. Млынаром называць. Бяда толькі цётцы ад мукі.

Аж тут і рада знайшлася. — Ведаеце, пане, — кажа найсмялейшая, — найлепш будзе, калі вы скінеце нагавіцы. Во тады мы іх вытрасем. — Здурнела баба, — агрызнуўся чалавек. — А куды я дзенуся? — Куды, куды? Некудыкайце, можаце ў нужніку пачакаць. Так ён і зрабіў. Сядзіць ён там, дзе яму не хочацца, і чакае. Толькі часам пытае, ці хутка. А наша цётачка выцірае нагавіцы. Пацяшае, што ўжо хуценька. І вось жанчыне завітала ў галаву думка, каб так іх праз акно аб цягнік вытрасці. Доўга не думаючы, так і зрабіла. А вецер, як бы на гэта чакаў, свавольнік. Вырваў нагавіцы і закруціў у паветры. Жанчына толькі крыкнула і больш не магла нічога сказаць. Як п'яная падыйшла да жанчын і прастагнала. Ратуйце, людочкі, вецер нагавіцы ўзяў, канец мне. Што рабіць? — мудра адказалі жанчыны. — Зараз будзе прыпынак. Вылазьце, а мы скажам, што вы прапалі. А дамоў другім цягніком прыедзеце. — Але з ім што будзе? — шкадавала жанчына. — Не бойцеся за яго. Ён жа мужчына!

— А што, ці ж не смешная гісторыя? — А ці гэта хоць праўда? — запытаў я. Бачылі гэтае? — Мы то не бачылі, але мы чулі. — То дзякуй Богу. Не хацеў бы я быць на яго месцы. То ж і смешна ад людзей і што жонцы скажаш? Да смерці не паверыць. Бо і як жа тут паверыць? Ці ж не?

**Г. Мароз**

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ

# Душа

Згодна з перакананнем людзей, паміранне — гэта пераход у іншы свет. Бытуе яно з давен-даўна ў розных культурах. Складанне ў магілу памершага ежы, прылад, якія былі самымі неабходнымі пры яго жыцці, з'яўляецца доказам веры ў замагільнае жыццё. У чалавека смяротнае толькі цела, ніколі душа. І далейшы яе быт не што іншае, як разлік з таго ж зямнога жыцця. Гэтакую афарбоўку ўнесла хрысціянская рэлігія.

Памёр чалавек. Нястала сярод жывых аднаго блізкага. Але засталося перакананне, што не расталіся з ім назаўсёды, што ў будучым чакае іх сустрэча. Дзе знаходзіцца ў чалавека душа і што гэта такое? Шматлікія інфарматары розных мясцовасцей — і з Галадоў, і з Макаўкі, і з Малешаў і з Заблудава, і з Мілейчыц, і з Вярхлесся цвердзяць адно, што душа — гэта тое, што падтрымоўвае цела пры жыцці, а знаходзіцца яна ў крыві чалавека. І смерць з'яўляецца ні чым іншым, як аддзяленнем душы ад цела. Якраз гэтае і ёсць галоўным матывам хаўтурных песень. Добра. Чалавек памірае. Што ж тады дзеецца з душою? Ці яна назаўсёды пакідае сваю хату, сям'ю? Да шасці тыдняў, як сцвярджаюць З. Грыгарук і Х. Васілюк з Галадоў, яна яшчэ ходзіць тымі мясцінамі ды дарогамі, якімі хадзіў чалавек за жыцця. Наведвае сваю гаспадарку. Шэсць тыдняў — гэта сорак два дні. Як правіла, пасля сарака дзён ад смерці ў царкве адпраўляюць абедню. Пасля яе, як гавораць людзі, душа адыходзіць на той свет. Пакуль аднак адыдзе, знаходзіцца яна ў хаце. Памяшчаецца яна пад абразамі, у тым куце, дзе пакойнік ляжаў на покуці. Некалі абразы ўпрыгожвалі ручнікамі. Вось пад гэтымі ручнікамі і было месца пасялення душы. „Да дзевяці дзён, — гавораць у Кошках, — душа аплаквае ўсе дарогі, якімі чалавек хадзіў за жыцця. Заходзіць у клуню, заглядае ў хлявы. Пацвярджэнне гэтага знаходзім таксама ў Малешах, а доказам тое, што пасля дзевяці дзён ад смерці закупляюць там у царкве абедню.

Ці душа толькі ходзіць, ці ў нейкі спосаб уздзейнічае на жывых, дапамагае? Сігналам таго, ці памершы будзе наведваць сям'ю, з'яўляецца пагода ў час пахавання. Ёсць перакананне: калі, прыкладна, падае дождж ці снег, дык значыць, што памёршы шкадуе свету, з якім разлучыўся. Магчыма, што нечага за жыцця ён яшчэ не дакончыў, а вельмі хацеў гэта зрабіць, магчыма, што пакінуў малых дзяцей. У народзе кружыць маса расказаў адносна наведвання, асабліва памершай маці, сваіх дзяцей. Вось прыклад запісаны ва ўспомненай вёсцы Кошкі. Памерла адна маладая жанчына. Асіраціла маленькае грудное дзіця. Бацька, зразумела, даглядаў яго, але дзіцяці патрэбнае было матчынае малако. Было яно яшчэ надта ж маленькае і не магло нічога іншага есці. Многія прарочылі яму смерць, але дзіця зусім добра гадавалася. Не худзела, расло. Усё роўна быццам бы нехта карміў. І бацька пачаў пільнаваць. Параілі яму, каб узяў грамнічную свячу і, калі пачуе, што нехта ў хаце ёсць, запаліў яе. Так і зрабіў. Калі запаліў свячу, заўважыў, што ля калыскі сядзіць яго памершая жонка і калыша дзіця.

Але не толькі прыходзіць маці да дзіцяці. Шмат ёсць расказаў, калі прыходзіць памершы гаспадар. Абыходзіць ён сваю гаспадарку, заглядае да жывёлы, ідзе ў стадолу рыхтаваць ёй ежу.

Адначасова ёсць перакананне, што нельга памершых выклікаць, нельга наракаць на іх і нельга смерці атоесамліваць са злачынствам, што быццам з іх

(Працяг на стар. 4)

## АДГАЛОСКІ

### ЧЫТАЛІ З ХВАЛЯВАННЕМ

Нельга без хвалявання было чытаць ўспаміны Ады Чэчуга пад загалоўкам „Дзіцячыя, негаючыя“. На памяць прыходзіць кніжка „Ніколі не забудзем“ (запісаныя апавяданні беларускіх дзяцей з часоў апошняй вайны), якую апрацаваў вядомы беларускі празаік Янка Маўр.

Ада Чэчуга мае лёгкае пяро і вялікі талент, яе ўспаміны напісаны па-мастацку і не горш ад найслаўнейшых нашых пісьменнікаў.

Нямала чытаў я розных успамінаў, нават вялікіх людзей, і шчыра хачу прызнацца, што бывалі нуднаватыя. А вось Ада Чэчуга напісала хвалююча і шчыра пра свае дзіцячыя гады ў час вайны. І чытаеш яе ўспаміны з вялікім хваляваннем.

Гэта добры прызнак, што яшчэ маладая жанчына рашыла напісаць пра свае дзіцячыя гады і апублікаваць гэта ў „Ніве“. Пісаць тады трэба, калі памяць свежая і здароўе добрае. Бо чалавек стары, калі яму 70 год, можа і не справіцца з такой адказнай працай, як успаміны з дзіцячых год. І памяць падводзіць і здароўе. Я лічу, што гэта каштоўная пазіцыя ў нашай беларускай ваеннай публіцыстыцы.

**М. Панфілюк**

### ХТО СА МНОЙ, ПАДНІМІЦЕ РУКІ!

„Я не Яцэк Грын, не музыкант“ — піша Васіль Петручук, калі дзеліцца сваімі ўражаннямі з агляду беларускай песні. „Я просты аматар“ — тлумачыцца ён. Ды вось я хачу сказаць, што такіх аматараў па нашай краіне ёсць шмат раскіданых. Толькі што гэтай шматлікай групе вялікіх сімпатыкаў беларускай песні не ўсім шчасліўіцца пабываць на такіх аглядах, аб якіх піша В. Петручук. І калі ласка, дарагія ў ГП і „Ніве“, хачу выказаць сваю думку ў гэтай тэме. Менавіта, такія агляды трэба фільмаваць і паказваць іх у кожную хвіліну. Можна б выкарыстоўваць і ў тэлебачанні. Проста гэта дасканалы дакумент, які ніколі не страціць сваёй вартасці. Трэба паказаць, што мы спевакоў не прывозім з заграніцы, а маем сваіх — родам з Беласточчыны. Мне не давялося іх чуць на аглядзе. Незалежна ад гэтага, я, як жыхар беларускай вёскі, ведаю, што ёсць чым захапляцца. У апошні час на маю долю выпала шчасце паслухаць спевы жаночага калектыву з Райска, аб якім хачу толькі сказаць два словы: прыгожа спяваюць!

**Валянцін Семянюк**

(Працяг са стар. 3)

## Душа

боку. Тады памершым на тым свеце вельмі цяжка. І яны будуць прыходзіць. Вось, прыкладна, здарэнне з ваколіц Макаўкі, што ў гміне Нараў. У адной сям'і было многа дзяцей і памёр бацька. Жонка памершага моцна наракала, што муж пакінуў на яе столькі дзяцей. Нават кляла яго. І той пачаў прыходзіць. Жонка моцна перапалохалася. І нехта ёй падказаў, каб напісала яна на паперы запытанне, чаго ён ад яе хоча. Пасля гэтага той перастаў прыходзіць.

Калі пры справах душы чалавека, нельга прамінуць маўчаннем самабойцаў і няхрышчаных. Душа першых, згодна з перакананнем, адразу ідзе ў пекла. Калі да памершага натуральнай смерцю адносіліся з пашанай і яго пазнейшае наведванне не было небяспечным, дык самабойцы выклікалі страх. Іх заўсёды баяліся. Месца самабойства было месцам розных страшных здарэнняў, асабліва вісельніка. Але гэтаму будзе прысвечаны асобны адрэзак. Калі рэч ідзе пра душу няхрышчанага, а асабліва дзіцяці, бо з ім найчасцей гэта прыключалася, дык была яна зданая на блуканне. Не мела яна месца. Калі душа памершага малога дзіцяці, але дзіцяці ахрышчанага, станавілася анёлам, то ў другім выпадку лётала яна агеньчыкам. Лётала датуль, пакуль нехта не назаве яе Адамам або Евай.

Усё гэта аднак павязанасці памёршага з зямным жыццём — наведванне, дапамога. Што дзеецца з душою на тым свеце і які гэты замагільны свет? Аб гэтым наступным разам.

**Міхась Шаховіч**



## Арцыпастух

Зала была запоўнена сялянамі ды не абыякімі! Кожны з іх меў дыплом спецыяліста, кожны лічыўся майстрам сельскагаспадарчай вытворчасці.

А ён устаў і заявіў:

— Я — пастух...

Прысутныя адгукнуліся смехам, бо сапраўды трудна было паверыць, што гэты чалавек гаворыць праўду. Яго заяўленню пярэчыў выгляд. Яшчэ за маёй памяці быць пастухом абазначала быць найгоршым, найбяднейшым.

А ён спакойна перачакаў смех і яшчэ дабавіў:

— Я арцыпастух Беластоцкага ваяводства.

І тут ужо смеху не было. Уступіў ён месца нарастаючаму зацікаўленню і звычайнай сялянскай недаверлівасці.

Крыху пазней я даведаўся, што гэты **„арцыпастух“** з'яўляецца па адукацыі **магістрам інжынерам** і шмат гадоў працуе ўжо ў **Ваяводскім цэнтры сельскагаспадарчага прагрэсу,** дзе займаецца рацыянальным выкарыстаннем зялёных угоддзяў. Гэта **Францішак Прышмонт.**

—Адносна спраў зараз найбольш актуальных, — пачаў ён, — раю ўсім сялянам закладаць сілас травы, рыхтаваць **сенакішонку.** Гэта вам напэўна аплоціцца, бо паслухайце:

— з адной тоны сена пад відам **сенакішонкі** можна атрымаць 262 літры малака,

— з адной тоны сена, высушанага пры дапамозе паветранага вентылятара — ужо 190 літраў малака,

— з адной тоны сена, падрыхтаванага на казлах — 160 літраў малака,

— і з адной тоны сена, пакінутага, як дагэтуль у нас найчасцей практыкуецца, на пакосе, каб на сонцы прасохла, каровы змогуць выпрадукаваць ужо ледзь 80 літраў малака.

Вось бачыце, дзе схаваны нашы ашчаднасці! Калі прыняць, што ва ўмовах Беластоцкага ваяводства 1 гектар сенажацяў дае больш-менш ад 6 да 8 тон сена, дык не цяжка палічыць, колькі каштоўнага малака не пападае ў конаўкі жывёлаводаў і не трапляе на скупачныя пункты.

У гэты момант у зале стала зусім ціха. Гэтыя вопытныя сяляне, якія ахвотна прымяняюць у сябе ўсялякія навінкі, зразумелі, што варта паслухаць гэтага пастуха. А ён гаварыў:

— Столькі я хацеў сказаць аб сенакішонках. Варта памятаць, — дадаў пасля кароткай хвіліны роздуму, — што яна з'яўляецца ў тры разы больш вартасным кормам, чымсьці звычайнае сена. А зараз пра ўгнаенні. Перш за ўсё заахвочваю сялян да прымянення на сенажацях высокіх дозаў **азоту.** Найбольш рэнтабельная норма — гэта 300-360 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва на 1 гектар сенажацяў або пасбішчаў. Пры такім узроўні мінеральнага ўгнаення можна атрымаць з гектара звыш 500 цэнтнераў зялёнай масы. Я асабіста, — дадаў ён, — ведаю такіх гаспадароў у наваколлі Бельска, якія дабіліся яшчэ вышэйшага ўраджаю з гектара.

Тут ужо ў зале адчувалася недаверлівасць. 500 цэнтнераў травы з гектара? То ж нават кукурузы не заўсёды столькі бывае! Аднак „арцыпастух“ са званнем магістра інжынера гаварыў з такім перакананнем, што трудна было не паверыць у яго словы.

— Пры высокім узроўні азотных угнаенняў, — амаль не спыняючыся працягваў ён сваю лекцыю, — неабходна памятаць аб іншых кармавых патрэбах травяністых раслін, у першую чаргу пра **фосфар.** Бо ў чым тут справа? А вось у тым, што калі ў кармах выступіць недахоп фосфару, будзе яго замала таксама ў крыві жывіны, а гэта аўтаматычна адмоўна адаб'ецца на яе здольнасці да разроду, значыць, будуць клопаты з зацяленнем кароў, а яловая карова, самі ведаеце, надаецца толькі на мяса, а не да гадоўлі.

Ён павёў вачыма па зале. Усе чакалі на яго далейшыя вывады. Дык гаварыў:

— Ну, вядома, нельга забываць і пра **калій,** значыць, пра **потас.** Тут справа ўжо крыху болей складаная, бо лёгка можна ўсё перадобрыць. Варта аднак памятаць аб гэтым, што каб атрымаць прынамсі 100 цэнтнераў зялёнай травы з аднаго гектара, неабходна прымяніць 200 кг потасу, значыць, не менш чым 7 мяшкоў солі патасовай на гектар сенажацяў. Толькі патасовыя ўгнаенні нельга даваць у адной дозе. Іх трэба раздзяліць прынамсі на тры часці, каб расліна не пераелася потасам, каб яго не было больш, як 4 працэнты ў саставе кармавых адзінак. Бо тады выступіць у траве недахоп **магнія,** што ў кароў адаб'ецца паяўленнем цяжкіх паносаў і другіх хваробных недамаганняў. Калі потас прымяняем на пасбішчы, тады трэба памятаць і аб тым, што каровы самі пакідаюць там нейкіх 80 кілаграмаў чыстага потасу на кожным гектары.

Ён на хвіліну спыніў сваю лекцыю і, падумаўшы, дадаў:

— І яшчэ адно: прымяняць гной на сенажацях! Гэтага ў нас амаль зусім не наглядаецца. А толькі ў натуральным гноі знаходзяцца **мікраэлементы,** неабходныя дзеля таго, каб паша была паўнавартасная. Іншага спосабу на папаўненне гэтых мікраэлементаў няма...

Слухаў я яго і думаў: як жа цяжка зараз быць пастухом! Дзе ж гэты час, калі бацька даваў у рукі кій, а маці вешала праз плячо даматканую торбачку з лустай хлеба, кусочкам сала і бутэлькай малака ды абое выганялі сваё дзіця ў поле разам з кароўкамі. Азот, фосфар, калій, мікраэлемент... Хто пра іх тады чуў?

А вось гэты „пастух“ са званнем магістра інжынера гаворыць яшчэ і яшчэ, а ўсё важнае, бо вядзе да ашчаднасці, да разумнага гаспадарання. Аб гэтым аднак ужо іншым разам.

**Віктар Рудчык**
фота аўтара



*З аднаго гектара добра ўгноенай сенажаці можна атрымаць звыш 500 цэнтнераў зялёнай масы травы.*

## IX З'ЕЗД БГКТ



*Сардэчныя віншаванні ад моладзі.*

(Працяг са стар. 2)

ВК ПАРП, ВК ФАН, Беластоцкага ваяводы З. Рыбіцкі выказаў ацэнку дзейнасці БГКТ і „Нівы“.

Прадстаўнік ЦК ПАРП К. Мамак у сваім выступленні падкрэсліў паважную ролю БГКТ у рэгіёне і ўклад яе членаў у ажыццяўленне багатай праграмы грамадскага і гаспадарчага развіцця Народнай Польшчы, што была прынята VIII з'ездам ПАРП. Пажадаў далейшых плённых вынікаў у дзейнасці нашай арганізацыі.

У адрасаваным IX з'езду БГКТ лісце дырэктара грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў **Е. Зарэмбы,** зачытаным прадстаўніком гэтага дэпартамента С. Дэмянюком, побач з высокай ацэнкай дзейнасці нашай арганізацыі, між іншым, гаварылася: „Ваша таварыства можа ганарыцца вялікімі дасягненнямі ў задаваленні культурных патрэб сваіх членаў і ўмацаванні сувязей брацкага сужыцця насельніцтва беларускага паходжання з польскім насельніцтвам“.

Дыскусія была канструктыўная, выступаючыя ў ёй адобрылі дасягненні БГКТ, па-дзелавому крытыкавалі недахопы ў працы таварыства, уносілі істотныя і прадуманыя прапановы, прапікнутыя шчырым клопатам пра разнастайныя важныя справы ў дзейнасці нашай арганізацыі. У дыскусіі выступілі: **А. Іванюк, А. Баршчэўскі, А. Карпюк,**

Імпартгумар

# ПАДАБЕНСТВА

Дырэктар устаў, адкашляўся і, гледзячы Сямёну Фамічу Клюеву проста ў вочы, загаварыў:

— Не, Сямён Фаміч, няма ў вас галавы на плячах. І не пярэчце. Гэта ж падабенства, а не галава. Натуральнае падабенства, выдадзенае вам матухнай-прыродай з гуманных матываў, каб нічым не адрозніваліся ад іншых супрацоўнікаў. Дык не мелі б вы, Сямён Фаміч, на сваіх плячах гэтага падабенства, вас бы ў грамадскі транспарт не пусцілі, на работу не ўзялі і наогул зацягалі б па кунсткамерах... Ах, дык вы факты хочаце? Калі ласка! Калі б у вас, Сямён Фаміч, была б у наяўнасці галава, то ці ж прывезлі б вы падманным шляхам машыну дасканалай цэглы на свой загарадны садовы ўчастак? Гэтая цэгла, між іншым, прадназначалася дзяржавай для іншага будаўніцтва. З-за вас, можа, плаціну ў тэрміне не пабудуюць ці хімкамбінат — аб гэтым вы не падумалі? Правільна, таму што няма чым! А вось яшчэ факт: соцстрахаўскія пуцёўкі раздаеце толькі сваім любімчыкам-падхалімам, а сумленнаму працаўніку — дуля! Ніводнага выключэння, хоць бы для адводу вачэй, не зрабілі. Глядзіце, Сямён Фаміч, дачакаецеся сігналу ў вышэйстаячыя інстанцыі. Вам трэба гэта? Вось і атрымліваецца, што падабенства ў вас на плячах замест галавы... Або іншы выпадак узяць. „Зарэзалі" Гуніну дысертацыю, а самі яе перадралі і змясцілі ў рэфератыўны журнал за сваім подпісам! А Гуніну нават прэмію дрэнненькую не далі, каб ён вас не паліваў на кожным рагу... Дзе ваша галава была, Сямён Фаміч? Маўчыце... То-та ж! Ну добра, на першы раз хопіць. Але ўлічыце, гэта толькі пачатак. У наступны раз я буду крытыкаваць вас яшчэ больш сур'ёзна...

Дырэктар Сямён Фаміч Клюеў адыйшоў ад люстра, апрануў паліто і паспяшаўся на работу.

**Анатолій Цітоў**



— *Жонка, дзе падзеўся мой адэкалон?*



**Лёг на аперацыю: акуліст знайшоў у воку бервяно.**

# НІЎКА



*Без слоў.*

### ЁН НЕ ВІНАВАТЫ

Пабывала маці ў дачкі на ферме ды і пытае:

— Алеся, а чаго гэта ваш заатэхнік так лаецца?

— Ды бачыш, мама, ён жа не вінаваты, што яго вучылі працаваць з жывёлінай, а не з людзьмі.

### ВЫПРАБАВАННЕ

— Калі б я кінулася ў раку, ты б выратаваў мяне?

„А калі я скажу „так", ты кінешся?

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У цёмным завулку сустрэліся двое мужчын. Адзін выхапіў нож і крыкнуў:

— Грошы!

Другі выцягнуў з кішэні пісталет і спытаў:

— Навошта?

— Я хацеў размяняць пяцьдзесят долараў...

*

— Дзядуля не вельмі разгневаўся, калі яго правялі на таможні?

— Наадварот. Дык пры наглядзе знайшлі яго акуляры, якія прапалі тыдзень назад!

## МІНІВЕРШЫ

### ПАЎНЮСЕНЬКІ

*— Устань! Я выклікаў таксі.*
*Цябе ж чакаюць жонка з цешчай...*
*— Я зараз... Толькі не трасі...*
*Ды не трасі ж! А то расплешчаш.*

**А. Куруленка**

### „ЦАНІЦЕЛЬ" ХАРАСТВА

*— Якое дзіва! —*
*з захапленнем гаварыў,*
*У заапарку лань убачыўшы,*
*прыгожага „цаніцель". —*
*Які б я суп з яе зварыў*
*Або засмажыў шашлычок ці*
*шніцэль!*

**У. Рудзінскі**



*Алімпійскі погляд.*

З „Весніка Задрыпоніі"

### КУЛЬТУРА АБСЛУГОЎВАННЯ

У рэстаране „Ачаг", дзякуючы безупыннаму павышэнню кваліфікацыі, усе рахункі выпісваюцца правільна. Нават самы ўнікліві рэвізор не выявіць у іх граматычных і сінтаксічных памылак.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Лысы суддзя дапытвае селяніна:

— Што прымусіла цябе не заплаціць падатак?

— Нічога не вырасла, паночку, — адказаў селянін, — зямля пустая.

Суддзя паказаў пальцам на зямлю і дадаў:

— Калі б ты, гультай, захацеў, дык і на пустой зямлі вырасла б што-небудзь!

Селянін паказаў пальцам на лысіну суддзі і запытаў:

— А хіба на тваёй галаве, паночку, штосьці колечы расце, калі яна зусім пустая?

### ХТО ВЕДАЕ

— У нас зусім адсутнічае музыкальная культура. Учора, калі я іграў на электрагітары, сусед выбіў у маіх вокнах шкло.

— Мабыць, ён гэта зрабіў, каб лепш чуць?



*Без слоў.*



*З гарантыяй надзейнасці.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## Tylko mnie poproś do tańca

**Słowa: Bogdan Olewicz**
**Muzyka: Wanda Żukowska**

Ty, co za nic garść marzeń mych masz
za nic je masz,
tak krótko trwa
życie moje.
Ty, co dni w roku nie zliczysz, czy wiesz,
czy wiesz, co to jest strach
u schyłku dnia?
Ty nie chodzisz spać,
a ja się boję
Coraz bliżej
kroki słyszę,
jedną chwilę
jeszcze, a tylko...

Tylko mnie poproś do tańca,
ja na nic więcej nie liczę,
od krańca świata do krańca,
od piekła do nieba bram.
Tylko mnie poproś do tańca,
jakbyś mnie kochał nad życie,
ja ci z nadziei różańca
odpust dam.
Tylko mnie poproś do tańca
dopóki młoda godzina,
pożółknie zegara tarcza
zanim wybije mój czas.
Tylko mnie poproś do tańca,
w którym się życie zatrzyma,
ta płyta chociaż już zdarta,
jeszcze gra.

Ty, co sny nam układasz do gry,
myśli me znasz
i za nic masz
szanse moje.
Ty, co słońce rozwieszach, ty wiesz,
dobrze wiesz,
wszystko ma kres.
Czy boisz się?
Raz wysłuchaj mnie,
nie myśl o sobie.

Tylko mnie poproś do tańca...

### ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

— Такі шалёны век настаў, — гаворыць задрыпанка суседцы. — Добра, што ёсць адзін дзень у месяцы, калі мусіш адарвацца ад усіх спраў і шчыра пагаварыць з мужам.

— Пра што ж вы тады гаворыце?

— „Дай грошы", — кажу я яму, а ён адказвае: „Калі ласка".

— Гэта і ўся шчырая размова? — здзіўляецца сяброўка.

— Бывае і даўжэйшая. Але гэта тады, калі муж упарціцца.

## КУРЁЗЫ

### ЭКАНОМНЫЯ ПРЫНЦЭСЫ

Гардэроб членаў царскіх і каралеўскіх дамоў заўсёды славіўся мноствам разнастайных адзенняў, аздобленых срэбранымі і залатымі ўпрыгожаннямі і каштоўным каменнямі. У адной рускай імператрыцы былі тысячы дарагіх сукенак, кожную з якіх яна апранала, можа, толькі раз у жыцці. Гэтая традыцыя дайшла і да нашых дзён. Яе прытрымліваліся і члены каралеўскай сям'і Вялікабрытаніі.

А вось нядаўна англічане заўважылі ў экіпіроўцы каралеўскіх асоб істотныя змены. Дачка каралевы Елізаветы прынцэса Анна ў час візіту ў Партугалію паявілася на прыёме ў тым сарафане, які на ёй бачылі некалькі гадоў назад. Гэта стала сенсацыйнай падзеяй. Мясцовыя рэпарцёры адразу ж змясцілі ў двух лонданскіх газетах здымкі, каб пацвердзіць такую акалічнасць. Затым тыя ж здымкі побач з другімі ранейшымі (каб зверыцца) абышлі амаль усе брытанскія перыядычныя выданні. Потым паляцела палагоска, што прынцэса Анна не першы раз апранаецца ў старое адзенне, больш таго, са слоў прыдворных краўцоў, яна даўно праніцоўвае свае ранейшыя ўбранні. Людзі не на жарт пачалі ламаць галовы, чым растлумачыць такі факт. Да чаго дайшла старая добрая Англія! Збяднела, прыйшла ў заняпад ці што? Тады суайчыннікі, якія яшчэ не растрацілі глыбокую пашану да каралеўскай сям'і, каб аберагчы яе гонар, пачалі распаўсюджваць чуткі пра тое, што, маўляў, паколькі ў Вялікабрытаніі жыццё ў апошнія гады падаражала, то і члены каралеўскай сям'і вырашылі таксама ж абыходзіцца з туалетамі больш эканомна. І гэта павінна стаць узорам для ўсіх англічан, а не прычынай для зласлівых гаворак.



**Чым шасцярня меншая, тым больш ёй даводзіцца круціцца.**